# Веcткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 3 (601)
Сакавік 2016 г.


## Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне “ПАГОНЯ”



ладзіць у суботу **19-га сакавіка** 2016 году ў Доме Маракоў на Мангэтане сьвяткаваньне ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці

**Беларускай Народнай Рэспублікі**

Праграма сьвяткаваньня складаецца з ўрачыстай акадэміі, фуршэта і канцэрта вядомага паэта і барда **Сяржука СОКАЛАВА-ВОЮША**.

Адрас: ***Seafarers and Internatonal House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003***

Пачатак а **5-й** гадзіне вечара. Заля на другім паверсе будынка.

*Падрабязьней пра даезд да месца імпрэзы глядзіце абвестку на 4-й бачыне.*

**Прыходзьце самыя і запрашайце сяброў ды знаёмых.**

# Беларуская вечарына ад Дзеда Барадзеда

Беларуская Антымарозная вечарына (Anti-freeze chill out) прайшла 24-га студзеня ў клюбе Meridian 23 на Мангэтане. Гэта ўжо другая па ліку беларуская вечарына ў рамках праекта Dzed Baradzed Party. Першая вечарына адбылася 11-га сьнежня 2015 г., у ёй бралі ўдзел беларускі поп-рок гурт “ProSSpekt” і DJ Christoph Noyman. Таксама беларускі гурт “Безь білета” прэзэнтаваў сваё відэамузыкальнае прывітаньне. Зьвярнуўшыся да беларусаў, што жывуць ў Нью-Ёрку, яны заклікалі землякоў зьбірацца разам, аб’ядноўвацца і стаць моцнай суполкай. У той дзень на вечар прыйшло амаль 150 чалавек. А квіткі ўжо былі распрададзеныя за дзень да імпрэзы. Таму, натхнёныя прыемнымі ўражаньнямі і добрымі водгукамі, мы, як арганізатары, вырашылі зладзіць новую вечарыну ўжо ў студзені 2016 года. Але гэтым разам правядзеньню імпрэзы перашкодзіла надвор’е. Сьнегапад і перабоі ў працы грамадзкага транспарту значна зьменшылі колькасьць гасьцей. Затое назва “Антымарозная вечарына” вельмі добра супала з тым, што адбывалася ў той дзень за сьценамі клюба. І ўсё ж 75 чалавек дабраліся і змаглі цудоўна адпачыць.

Фармат нашай студзеньскай імпрэзы быў ня клюбны, што прыцягнула ўвагу людзей рознага ўзросту. У кошт квітка на вечар уваходзілі бліны з начыньнем і шклянка гарачага глінтвэйна. Гасьцям таксама былі прапанаваныя настольныя гульні: джэнга, уно, шахматы, карты ды інш. Яшчэ на вечарыне можна было паспрабаваць сапраўдную крамбамбулю, прыгатаваную сужоствам Мазгавых па старажытнай рэцэптуры. Гасьцям такі напой прыйшоўся да спадобы, таму наступны раз плянуем прыгатаваць яго больш і розных гатункаў.




Увесь вечар гучала беларуская музыка, а адмыслова запрошанымі гасьцямі былі народжаная ў Беларусі сьпявачка ў інды-поп стылі GROOSHA, а таксама кіраўнік і музыка габрэйскага гурта LITVAKUS спадар Зьміцер Сьляповіч і ягоная кампаньёнка скрыпачка Zoë Aqua.

Не абыйшлося і без дабрачыннасьці. У клюбе былі прадстаўленыя малюнкі Алекса Мэя, зробленыя спрэем. Іх раздавалі за зробленыя ахвяраваньні, што пайшлі на дапамогу хвораму Сашы Хабараву (захворваньне сьпінальнай цяглівай атрафіяй Вэрдніга-Гофмана). Сабралі для яго 216 даляраў. Але акцыя прадоўжыцца на наступнай імпрэзе, каб дапамагчы бацькам хлопчыка набыць так неабходны штучны апарат вэнтыляцыі лёгкіх. Мы шчыра дзякуем усім тым, хто зрабіў ахвяраваньні і не застаўся абыякавым.

Трэба яшчэ ўзгадаць, што на вечарыне быў свой дрэс-код – каляровае адзеньне. І нават разыгрываўся падарунак для самага яркаапранутага ўдзельніка імпрэзы. Канкурсанты павінны былі мець на сабе белы і чырвоны колеры. Журы былі ўсе госьці, і пераможца вызначаўся воплескамі. Такім чынам перамог Яўген Пятровіч, які быў апрануты ў белую кашулю з нацыянальным узорам, а ў падарунак ён атрымаў маленькага Дзеда Барадзеда, як сымбаль вечарыны.

***закачэньне на бачыне 3***

# Лютаўскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу 13-га лютага ў Доме Маракоў на Мангэтане адбыўся чарговы лютаўскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу старшыня Згуртаваньня Віталь Зайка, коратка распавёў для тых, хто ў першы раз прыйшоў на сход “Пагоні”, пра арганізацыю ды ейную дзейнасьць. Сп. Зайка таксама зрабіў шэраг абвестак, у тым ліку пра маючае адбыцца 6 сакавіка сёлета традыцыйнае народнае сьвята — Гуканьне Вясны. З падрабязнасьцямі пра гэтую імпрэзу перад прысутнымі выступіла сакратар Згуртаваньня “Пагоня” сп-ня Валянціна Якімовіч.

Затым перад прысутнымі выступіла госьця Згуртаваньня “Пагоня” паэтка і дасьледчыца ў галіне культуралёгіі сп-ня Ірына Шумская, якая піша пад псэўдонімам Ірына Хадарэнка. Яна аўтарка шэрагу паэтычных зборнікаў, навуковых працаў і артыкулаў, папулярных выданьняў. Да нядаўняга часу яна выкладала ў Беларускім унівэрсытэце культуры і мастацтваў у Менску. Зьяўляецца сябрам Саюзу беларускіх пісьменьнікаў і Беларускага ПЭН-цэнтру. Праходзіла стажыроўку ў Варшаўскім і Ягелёнскім унівэрсытэтах. Значнай падзеяй стаў выхад ейнага зборніку паэзіі “Сьвядомаграфія”. Паэт і крытык Эдуард Дубянецкі адзначыў Ірыну Хадарэнка як прадстаўніцу інтэлектуальнай плыні ў сучаснай беларускай паэзіі, што з філязофскага боку асэнсоўвае этнапсыхалёгію суграмадзянаў, гісторыю і сёнешні дзень краіны. Яе вызначаюць адмысловы стыль і шырокая эрудыцыя, багацьце алюзіяў і выяваў.

Сп-ня Ірына Хадарэнка распавяла пра сябе і сваю творчасьць, спынілася на стане справаў у Беларусі, адкуль яна зусім нядаўна прыехала. Прамоўца коратка прааналізавала стан і пэрспэктывы беларускай нацыянальнай сьведамасьці на Бацькаўшчыне.

Затым яна прэзэнтавала сваю кнігу, што выйшла зусім нядаўна па-ангельску “Distinctive Belarus: On the Roads of Dukes, Magnates and Poets” (Belarusan Historical and Cultural Institute, 2015). Ірына Хадарэнка распавяла пра гісторыю напісаньня кнігі, што паўстала з сэрыі артыкулаў пра архітэктурныя помнікі Беларусі. Кніга ўлучае нарысы пра архітэктурную спадчыну, зьвязаныя зь ёю гістарычныя падзеі, прадстаўляе легенды і малавядомыя факты з рэчаіснасьці. Скіраванае выданьне на пашырэньне ведаў пра гісторыю й культуру Беларусі сярод замежнікаў, а таксама можа быць цікавым для шмат каго зь беларусаў, што цікавяцца гісторыяй і архітэктурай сваёй краіны.

Камэнтуючы выступ сп-ні Хадарэнка, Віталь Зайка падкрэсьліў, што нацыянальная архітэктура ёсьць неад’емным складнікам нацыянальнай ідэнтыфікацыі дадзенага этнасу або нацыі, і для


Ірына Хадарэнка

многіх народаў пэўныя архітэктурныя помнікі ёсьць выбітным сымболем нацыі, што адлюстраваныя на сьцягах і гербах, банкнотах, манэтах – варта ўзгадаць эгіпецкія піраміды, камбаджыйскі Ангкор, расейскі Крэмаль, італійскі Калізей. Таму нядзіўна, што антыбеларусія сілы вядуць наступ на беларускую архітэктуру – імкнуцца зносіць гістарычныя помнікі, або перарабіць іх на расейскі капыл, як стала з увядзеньнем пазалочаных цыбулінаў на шматлікіх цэрквах у Беларусі. Гістарычныя веды, культурніцкая асьвета могуць дапамагчы супрацьстаяць такім тэндэнцыям.

Сп-ня Хадарэнка адказала на пытаньні прысутных, якія часам перарасталі ў цікавыя дыскусіі. Слухачы прэзэнтацыі Ірыны Хадарэнкі мелі нагоду набыць асобнік яе кнігі.

Затым у разьдзеле “Рознае” адбыліся знаёмствы з гасьцямі “Пагоні”, а пасьля афіцыйнай часткі прысутныя мелі нагоду працягнуць знаёмствы, пагутарыць з прэзэнтанткай пры кілішку віна і сьціплых пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**





Шаноўныя сябры, калі вам надакучылі лютаўскія маразы ды завірухі, запрашаем адзначыць з намі старадаўні абрад **ГУКАНЬНЯ ВЯСНЫ**, як гэта штогад рабілі нашыя продкі.

Імпрэза адбудзецца ў нядзелю **6-га сакавіка** 2016 года а **12-й гадзіне папаўдні** ў маляўнічай мясьціне на беразе ракі Гудзон, прыкладна, 40 хвілінаў язды на цягніку ад Мангэтана ля станцыі *Ossining*. Адрас: ***1 Westerly Road, Ossenng, NY 10562***

Падсілкуемся традыцыйнымі абрадавымі стравамі ў клюбе, а тады будзем вадзіць карагоды і прасіць птушак прынесьці на сваіх крылах даўгачаканую вясну. Падчас кульмінацыі абраду пусьцім саламяную ляльку, а зь ёю і ўсе непрыемнасьці й цёмныя думкі па хвалях паўнаводнага Гудзона.

Па інфармацыю зьвяртайцеся да арганізатараў **Лены і Пятра РЫЖЫХ**: тэл. ***(914) 522-0742***, емэйл адрас ***lenabelarus@yahoo.com*** Кошт - **$15** з асобы.

# Кніга пра гісторыю Беларускай Цэнтральнай Рады

*Гардзіенка, Алег. Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР): стварэнне — дзейнасць — заняпад (1943—1995). Мінск: Кнігазбор, 2016. — 480 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 29) — (Наклад 200 ас.)*

У гісторыі беларускага нацыянальнага руху XX ст. былі некалькі палітычных структураў, што на дзесяцігодзьдзі перадвызначылі зьмест і формы рэпрэзэнтацыі беларускіх інтарэсаў, асабліва на Захадзе. Адной з іх зьяўлялася Беларуская Цэнтральная Рада. Менавіта ёй і прысьвечаная новая кніга менскага журналіста й дасьледніка Алега Гардзіенкі.




У выданьні, прадмову да якога напісалі Вітаўт Кіпель і Янка Запруднік, можна вылучыць дзьве вялікія зьместавыя часткі. Першую складае пасьлядоўны аўтарскі выклад паўвекавой гісторыі БЦР, другую – дапаможныя для разуменьня гэтай гісторыі матэрыялы: бібліяграфіі, храналёгія, публікацыі дакумэнтаў, лістоў, біяграфіі дзеячаў.

Нельга сказаць, што Беларуская Цэнтральная Рада раней была пазбаўленая ўвагі дасьледнікаў. Аднак папярэднікі пераважна абмяжоўваліся разглядам менавіта ваеннага пэрыяду яе дзейнасьці. У кнізе ж Алега Гардзіенкі ўпершыню гісторыя БЦР прысутнічае як цэласная зьява, ад яе заснаваньня ў часы нямецкай акупацыі праз прыпыненьне дзейнасьці ў 1945 г. і наступнае адраджэньне ў 1948 г. ужо як эміграцыйнай структуры – да сьмерці яе апошняга афіцыйнага Прэзыдэнта Міхася Зуя.

У зьмешчаным у кнізе гістарычным нарысе аўтар зьвяртае ўвагу на перадумовы й абставіны стварэньня БЦР Радаславам Астроўскім у 1943 г., пачаткі яе дзейнасьці, правядзеньне Другога Ўсебеларускага Кангрэсу, арганізацыю Беларускай Краёвай Абароны, эвакуацыю зь Беларусі, дзейнасьць у Нямеччыне да капітуляцыі. На падставе дакумэнтаў і сьведчаньняў удзельнікаў Алег Гардзіенка паказвае, як суадносіліся ідэйныя памкненьні дзеячаў БЦР і рэальныя магчымасьці.

Багата ўвагі ў кнізе аддадзена падзеям аднаўленьня БЦР у 1948 г., царкоўнаму й палітычнаму падзелу беларускай эміграцыі, іх прычынам і наступствам. Алег Гардзіенка заўважае, што зацятае змаганьне Рады БНР і БЦР у паваенны час, ня столькі мела ідэйныя падставы, колькі стала вынікам асабістага антаганізму палітычных лідэраў.

Пасьлядоўна выкладзеныя ў гістарычным нарысе падзеі й праблемы эміграцыйнага пэрыяду дзейнасьці БЦР. Разглядаюцца пленумы, канфлікты ня толькі з Радай БНР, але й зь Беларускім Кангрэсавым Камітэтам Амэрыкі, Беларускім Вызвольным Рухам. Аўтар мэтадычна аднаўляе храналёгію падзеяў, зьвязаных з прыпыненьнем дзейнасьці БЦР у 1960-х і чарговым аднаўленьнем яе ў 1970-х, са сьціплай актыўнасьцю наступнікаў Радаслава Астроўскага: Нікандра Мядзейкі й Міхася Зуя. Цікава, што нягледзячы на відавочны пройгрыш ва ўплыве на эміграцыі Радзе БНР, нават пасьля сьмерці апошняга Прэзыдэнта БЦР палітычным апанэнтам не ўдалося дамовіцца аб аб'яднаньні. Адмыслова скліканая ў 1996 г. нарада не прынесла вынікаў: група прыхільнікаў БЦР, нават без афіцыйнага Прэзыдэнта, захавалася асобнай, нягледзячы на тое, што ўласна гісторыя Рады на гэтым ужо скончылася.

Зьмешчаныя ў кнізе Алега Гардзіенкі пасьля гістарычнага нарысу дакумэнты БЦР і ліставаньне яе дзеячаў падмацоўваюць і дапаўняюць аўтарскі аповед некаторымі дэталямі, у тым ліку й міжасабовых адносінаў. Ёсьць у кнізе й невялікая ўклейка са здымкамі, якія ілюструюць розныя моманты гісторыі арганізацыі.

З выхадам працы Алега Гардзіенкі ў палітычнай гісторыі беларускай паваеннай эміграцыі зьнікла яшчэ адна значная "белая пляма".

***Н. Г.***

## Беларуская вечарына

***заканчэньне з бачыны 1***

Наступная імпрэза плянуецца на сакавік. І мы запрашаем усіх беларусаў і іх сяброў, незалежна ад нацыянальнасьці, завітаць да нас, бо мэта нашых вечарынаў – зьяднаць беларусаў і ўзмацніць нашу беларускую грамаду. Далучайцеся.

***Ганна ШАРКО і Аляксандар МАЗГАВЫ***



Наступную вечарыну **Dzed Baradzed Party** робіць разам зь *Беларускім Інстытутам Амэрыкі* **25 сакавіка 2016 г. у бары "Meridian 23"** на Мангэтане.

Усе дэталі гэтай імпрэзы можна знайсьці ў **Facebook** ў суполцы ***"Беларусы ў ЗША. Разам лягчэй"*** ці ў **Instagram** па хэштэгу ***#dzedbaradzed.*** **Запрашаем усіх!**



*Здымкі Сяргея ЯРМОЛЕНКІ*

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Brave New World

Некаторыя яшчэ, можа, не забыліся, як я тут наракаў на тое, што ў фэйсбуку няма функцыі “не люблю”. І вось здавалася б, што прачытаўшы “Галгатню”, Цукерберг прыслухаўся і адгукнуўся на нашыя патрабаваньні. Дуля з макам! У новым камплекце ізноў дазволена ўсё-усё, апрача “не люблю”. І хай вам нават на момант не падасца, што „злуюся” раўняецца “не люблю”.

Вітаем у “Новым цудоўным сьвеце” Олдаса Хакслі. У вас “на выбар” пяць эмоцый: любіць, абагаўляць (гарачая любоў), рагатаць (бяздумная любоў), зьдзіўляцца (зьбянтэжаная любоў, што яшчэ лепш перадаецца расейскім словам “недоумённый”), сумаваць (...што нехта ня любіць) і злавацца (...што нехта ня любіць). Усе новыя эмоцыі – гэта, фактычна, памнажэньні першай,варыяцыі ад асноўнай эмоцыі – лайк. Ва ўтопіі Хакслі, каб чалавек быў “шчасьлівы”, яго трэба пазбавіць адмоўных, асабліва траўматычных эмоцый. Такі чалавек становіцца шчасьлівай расьлінай, якой вельмі лёгка кіраваць. Зусім неябавязкова заганяць чалавечую істоту ў татальна кантраляваную дэпрэсіўную оруэлаўскую рэчаіснасьць. Дастаткова даць яму ілюзорнае задавальненьне і шчасьце, і ён сам папросіцца стаць часткаю гэтай сыстэмы.




Новыя эмоцыі, прапанаваныя фэйсбукам, якія падхопяць і ўсе астатнія, зь віду альтэрнатыўныя, сацыяльныя сеткі, гэта ніякі не плюралізм, а інтэлігентнае ўнармаваньне-ўніфікацыя. Новае практыкаваньне-дрэсіроўка-праекцыя правільных нормаў мысьленьня і паводзінаў. Хто цяпер захоча, каб ад ягоных запісаў сумавалі, а не дай Бог, каб на іх яшчэ злаваліся. Цяпер кожны будзе старацца, каб “левая” шаля (напрамкі тут таксама, відаць, невыпадковыя) была істотна цяжэйшая за “правую”. Правыя эмоцыі будуць калекцыянаваць хіба толькі нейкія недабітыя сацыяпаты.

Іншыя ж будуць імкнуцца быць падобнымі да сваіх куміраў, музыкаў, паэтаў, актораў, людзей, якія паводле Плятона, кіруюцца эмоцыямі, і таму ў ідэальнай дзяржаве ім не павінна быць месца. Не ў фізычным пляне, канешне, а ў сымбалічным. У нашым новым сьвеце наадварот, музыкі, паэты, акторы – гэта першыя камэнтатары, асноўныя экспэрты і грамадзкія аўтарытэты, якія бясконца агітуюць, зьбіраюць подпісы, выказваюць свае погляды на тэлебачаньні, бяруць найактыўнейшы ўдзел у канструяваньні новай рэчаіснасьці.

Асноўным ідэальным наркотыкам у “Новым пектым сьвеце” зьяўляецца “сома”, якая робіць людзей шчаслівымі, не пакідаючы ані адмоўных эфэктаў, ані пахмельля. Леніна, адна з гераінь “Цудоўнага новага сьвету” кажа: “Каханьне такое ж выдатнае як сома”.

Усіх віншуем з яшчэ не зусім астылымі валянцікамі...

***Віталь ВОРАНАЎ***

---

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:**

- А. Асмалоўская ..............60
- А. Дубіцкі ....................06
- М. Івашчанка ................60
- Н. Карасьцелкіна ...........60
- В. Кораб ......................60
- К. Крычаўцова ..............60
- З. Мотуз ......................60
- П. Пацэнка ...................60
- В. Петрушэнка ..............60
- В. Сьпеталюн ................60
- М. Цітова .....................60
- Ю. Цыбулька ................60
- С. Чарняк .....................60
- Р. Чарняўскі .................60
- З. Шаламіцкі ................60

**Усім шчыры дзякуй!**

---

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”** *Viktar Yedzinovich.*

---

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **19-га сакавіка 2016 года** на Мангэтане ў Доме Маракоў па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі* ***L, N, Q, R, W, 4, 5, 6*** *да прыпынка* ***Union Square****.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад* ***Union Square*** *па* ***15-й вуліцы*** *на скрыжаваньні з* ***Irving Place****.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.

Пачатак: **а 5:00-й** вечара.

**Сакавіцкі сход будзе прысьвечаны 98-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі й Акту 25 сакавіка 1918 году.**

**Сьвяточная імпрэза будзе складацца з ўрачыстай акадэміі, фуршэту і канцэрту вядомага паэта і барда Сяржука СОКАЛАВА-ВОЮША.**

---

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

- А. Дубіцкі ....................30
- М. Івашчанка ................30
- К. Крычаўцова ..............30
- В. Крэмез .....................30
- К. Кузьменка ................30
- З. Мотуз ......................30
- П. Пацэнка ...................30
- В. Петрушэнка ..............30
- В. Сьпеталюн ................30
- Я. Траско .....................30
- Ю. Цыбулька ................30
- С. Чарняк .....................30
- Р. Чарняўскі .................30

**Шчыры дзякуй!**

---

***Шаноўныя сябры!***

*Калі ласка, своечасова абнаўляйце падпіску на наш бюлетэнь. (**гл. інфармацыю аб стане падпіскі на “Весткі й Паведамленьні” на канвэрце справа ад прозьвішча**).*

---

*Паважаныя* ***С. Козыраў, З. Мотуз, К. Штымак і Я. Яджак,*** *калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*